● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

24 сакавіка 1998 г. аўторак, № 67 (23418)



# ЗВЯЗДА

## ХАТЫНСКАЯ ТРАГЕДЫЯ: БОЛЬ І ПЕРАСЦЯРОГА

«55 гадоў таму гітлераўскімі варварамі было ўчынена найвялікшае злачынства стагоддзя — спалена цудоўная беларуская вёска Хатынь». Такімі словамі 23 сакавіка прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка адкрыў у мемарыяльным комплексе «Хатынь» мітынг, прымеркаваны да гэтай трагічнай даты. Паводле слоў кіраўніка дзяржавы, нягледзячы на гады, сёння хатынская трагедыя актуальная як ніколі. Цяпер у некаторых дзяржавах фашызм адраджаецца. Аб гэтым сведчыць і нядаўняе выступленне ў Рызе латвійскіх эсэсаўцаў. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што сучасная Беларусь, якая абнаўляецца, — лепшы помнік ахвярам Хатыні.

Кіраўнік дзяржавы ўсклаў вянок да мемарыяла «Хатынь». Кветкі і вянкі былі ўскладзены таксама ад Нацыянальнага сходу Беларусі, Савета Міністраў, Міністэрства абароны, іншых органаў дзяржаўнага кіравання. Прысутныя ўшанавалі памяць загінуўшых хвілінай маўчання, а салдаты роты ганаровай варты зрабілі ружэйны салют.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## ВІЗІТ ІВАНА РЫБКІНА Ў МІНСК АДМЕНЕНЫ

Намечаны на 23 сакавіка візіт у Мінск віцэ-прэм'ера расійскага ўрада Івана Рыбкіна адменены. Мяркуецца, што прычынай гэтага стала адстаўка ўрада Расіі, аб якой кіраўнік расійскай дзяржавы Барыс Ельцын аб'явіў раніцай 23 сакавіка. **БЕЛТА.**

## АРЫШТАВАНЫ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ РАЙВЫКАНКАМА

У Століне арыштаваны начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва, намеснік старшыні райвыканкама Пётр Шаўчук.

Ён абвінавачваецца ў злоўжыванні службовым становішчам і крадзяжы дзяржаўных сродкаў у асабліва буйных памерах. Узбуджана крымінальная справа; не выключана, што ў працэсе расследавання да былога начальніка могуць далучыцца не менш вядомыя ў райцэнтры асобы.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

## ВАЎКІ ЗАГНАЛІ ЛЕСНІКА НА САСНУ

Ледзь не стаў ахвярай воўчай зграі 45-гадовы ляснік са Шчучынскага раёна. Выратавацца яму ўдалося толькі дзякуючы таму, што не разгубіўся і залез на сасну, на якой праседзеў каля дзвюх гадзін. Увесь гэты час ваўчыца і пяцёра ваўчанят чакалі яго пад дрэвам. А спудзіла зграю група аднавяскоўцаў лесніка, якая выпадкова праязджала міма. Яны, як паведаміла гродзенская газета «Біржа інфармацыі», і вызвалілі лесніка з палону.

**БЕЛТА.**







## СТАРАДАРОЖСКАЯ ВЯСНА

**Белымі, заснежанымі ўбачыў Старыя Дарогі і людзей наш карэспандэнт. У горадзе шэсць гадоў таму адкрылася школа мастацтваў. Ліза Баннікава хоча стаць сапраўдным музыкам, і таму ніякія завеі не перашкаджаюць дзяўчынцы прыходзіць у свой любімы клас.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

## БЕЛАРУСКІ ПРЭЗІДЭНТ ЛІЧЫЦЬ, ШТО Ў БАРЫСА ЕЛЬЦЫНА БЫЛІ ВАЖКІЯ ПАДСТАВЫ ДЛЯ ПРЫНЯЦЦЯ РАШЭННЯ АБ АДСТАЎЦЫ ЎРАДА

Для такога рашэння ў Барыса Ельцына былі важкія падставы — так прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка пракаменціраваў журналістам у час наведвання мемарыяльнага комплексу «Хатынь» 23 сакавіка вестку аб тым, што кіраўнік расійскай дзяржавы адправіў у адстаўку ўрад сваёй краіны.

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, тым самым Барыс Ельцын яшчэ раз прадэманстраваў, што ў Расіі прэзідэнт ёсць. Гаворачы ж аб звальненні Анатоля Чубайса і Анатоля Кулікова, кіраўнік беларускай дзяржавы адзначыў, што, паводле яго прагнозаў, гэта павінна было адбыцца яшчэ ў пачатку лютага. Пры гэтым ён сказаў, што падтрымлівае рашэнне Барыса Ельцына аб адстаўцы ўрада, паколькі адказнасць за адсутнасць тэндэнцыі да збліжэння Беларусі і Расіі ў многім ляжыць на ўрадзе Расійскай Федэрацыі.

Аляксандр Лукашэнка не стаў прагназіраваць, хто будзе пераемнікам Віктара Чарнамырдзіна, падкрэсліўшы, што гэта ўнутраныя справы Расіі. Ён толькі выказаў думку, што ўзначаліць урад павінен вопытны кіраўнік, можа, былы губернатар ці чалавек, які працаваў у сферы эканомікі.

Паводле слоў беларускага прэзідэнта, метамарфозы ў расійскім кіраўніцтве не павінны адбіцца на яго візіце ў Мурманскую вобласць.

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ, БЕЛТА.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА І ВАЛДАС АДАМКУС ВЫКАЗАЛІСЯ ЗА СУПРАЦОЎНІЦТВА БЕЛАРУСІ І ЛІТВЫ

Прэс-служба кіраўніка беларускай дзяржавы паведаміла, што 23 сакавіка 1998 года адбылася тэлефонная размова паміж Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам і Прэзідэнтам Літоўскай Рэспублікі Валдасам Адамкусам. Прэзідэнты абмеркавалі стан двухбаковага супрацоўніцтва і абмяняліся думкамі па шырокаму колу міжнародных праблем.

Аляксандр Лукашэнка і Валдас Адамкус выказаліся за далейшае дынамічнае развіццё супрацоўніцтва Беларусі і Літвы ў палітычнай, эканамічнай і іншых галінах.

Значная ўвага ў час гутаркі была ўдзелена пытанням дэмаркацыі і добраўпарадкавання беларуска-літоўскай граніцы, павелічэнню прапускной здольнасці пагранічных пунктаў пераходу.

Прэзідэнты, паведамляе прэс-служба, дамовіліся прадоўжыць дыялог пры асабістай сустрэчы, час і месца якой будзе ўзгоднена па дыпламатычных каналах у бліжэйшы час.

**БЕЛТА.**

## ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

***Прэзідэнт Расіі Б. Ельцын заявіў, што краіне патрэбна «новая ўрадавая каманда»,*** здольная дабіцца рэальных вынікаў — перш за ўсё ў сацыяльнай сферы. «Членам кабінета трэба менш займацца палітыкай», — адзначыў Ельцын ва ўчарашнім тэлезвароце да расіян у сувязі з прэзідэнцкім указам аб адстаўцы ўрада. Падкрэсліўшы значэнне для краіны маючых адбыцца ў 2000 годзе выбараў прэзідэнта, Ельцын заявіў, што даручае Чарнамырдзіну — цяпер ужо быламу прэм'еру — «сканцэнтравацца на падрыхтоўцы да выбараў». Прэзідэнт узнагародзіў Чарнамырдзіна ордэнам «За заслугі перад Айчынай», высока ацаніўшы яго работу ва ўрадзе. Ельцын паабяцаў назваць кандыдатуру новага прэм'ер-міністра ў бліжэйшы час.

***Міністр паліва і энергетыкі Расіі Сяргей Кірыенка назначаны часова выконваючым абавязкі прэм'ер-міністра.*** Адначасова ён стаў і першым віцэ-прэм'ерам — замест пайшоўшага ў адстаўку Анатоля Чубайса. Кірыенка блізкі саратнік Барыса Нямцова, які адмовіўся каменціраваць сітуацыю з адстаўкай кабінета, падкрэсліўшы, што «працуе ў звычайным рэжыме». Як заявіў Чубайс, «ён рады, што прэзідэнт задаволіў яго просьбу аб пакіданні дзяржслужбы». Па словах Чубайса, ён звярнуўся да Ельцына з просьбай аб адстаўцы яшчэ ў мінулым месяцы.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 23 САКАВІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| **Мінск (0-17)** | | | | | | | |
| Абсалютбанк | 40000 | 42000 | 21800 | 22900 | 6500 | 6900 | 263-6080 |
| Белкамбанк | 41000 | 42000 | 22400 | 22900 | 6700 | 6800 | 226-0992 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 33460.00 | | 18261.20 | | 5500.00 | | Курс на 24.03.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.0970 | | 3.3311 | | 10000 BLR 1.1299 | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, установленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс | 53000 | 53500 | 28891 | 29171 | 8703 | 8792 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс *(прыблізна)* | 48000 | 48200 | 26500 | 26700 | 7700 | 7900 | |

*ПОГЛЯД*

## БАНКАЎСКАЯ СІСТЭМА Ў ЧАКАННІ...

Учора банкі краіны аказаліся ў патавай сітуацыі: фінансавыя ўстановы вымушаны былі з раніцы прыпыніць плацяжы ў беларускіх рублях, у тым ліку і ўнутры краіны. Адпаведную тэлеграму атрымалі камерцыйныя банкі з Нацыянальнага. Праўда, праз дзве гадзіны тыя ж банкі азнаёміліся з наступнай тэлеграмай, у якой галоўная фінансавая ўстанова дазволіла праводзіць плацяжы ў беларускіх рублях у бюджэт і ў фонд сацыяльнай абароны. Практычна банкаўская сістэма аказалася вымушанай знаходзіцца ў чаканні — што ж будзе далей?

Афіцыйнай інфармацыі, нейкіх каментарыяў, на жаль, у панядзелак карэспандэнту газеты «Звязда» атрымаць не ўдалося. Па прызнанню многіх банкіраў, сістэма аказалася на час выведзенай з усялякай дзейнасці. Што датычыцца занятай, у дадзеным выпадку, камерцыйнымі банкамі нейкай канкрэтнай пазіцыі, то яна, па сведчанню многіх, характарызуецца як ніякая. Адзінае, бадай, што ўчора вывела прадстаўнікоў банкаўскай сістэмы з аморфнага стану, — адстаўка расійскага ўрада і, як вынік, імгненнае падзенне курса расійскіх каштоўных папер на 10 працэнтаў (такая сітуацыя, прынамсі ў панядзелак, склалася да дванаццаці гадзін дня). Несумненна, у сувязі з гэтым у РФ будуць прыняты экстранныя меры, што адаб'ецца і на лёсе беларускай валюты.

Наогул жа падзеі на валютным рынку рэспублікі, такое ўражанне, застаюцца амаль што нязменнымі. Банкі працуюць паранейшаму з курсамі ў 41.000—42.000 рублёў. Сёння мала тых банкіраў, якія б сумняваліся, што адчайная спроба Нацыянальнага банка на мінулым тыдні пазбегнуць разгрому рубля, вылілася ў інтэрвенцыю валюты на рынак. Па сутнасці гэта, а таксама адміністрацыйныя меры дапамаглі беларускаму рублю асвойтацца. Ніхто нават не сумняваецца ў тым, што ў бліжэйшыя дні падобная стабільнасць захаваецца.

Аднак што будзе далей? Некаторыя банкаўскія спецыялісты, напрыклад, лічаць, што ў рэспубліцы цяжка нешта зрабіць, каб надаць стабільнасць беларускаму рублю. А гэта, зразумела, азначае яго падзенне, аднак не такое імклівае, як у сярэдзіне сакавіка. Іншыя мяркуюць, што, каб прадказваць і надалей паводзіны беларускай валюты, трэба азнаёміцца з праграмай, якую прапануе новае кіраўніцтва Нацыянальнага банка. Такім чынам, адназначнай пазіцыі ў банкіраў зараз няма.

Затое «чорны рынак» у адказ на перамены ў кіраўніцтве Нацбанка і сітуацыі на валютным рынку ўнёс свае карэктывы: рубель зноў пачаў там падаць. Учора валютчыкі прадавалі долар ужо па курсу 48.500 рублёў за адзін долар — попыт на СКВ існуе, а купіць яе становіцца цяжка.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# САВЕТ РЭСПУБЛІКІ ІМКНЕЦЦА БЫЦЬ БЛІЖЭЙ ДА ПАТРЭБ НАРОДА

**На працягу двух дзён на Віцебшчыне працаваў рэгіянальны семінар «Праблемы ўдасканалення заканадаўства ў Рэспубліцы Беларусь: практыка, тэндэнцыі, перспектывы». Ён быў арганізаваны Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу і кіраўніцтвам Віцебскай вобласці. А ўдзел у ім узялі таксама прадстаўнікі міністэрстваў і дзяржкамітэтаў, Генеральнай пракуратуры, кіраўнікі раённых Саветаў дэпутатаў і выканкамаў.**

18 сакавіка ўдзельнікі семінара ў саставе некалькіх груп знаёміліся з прамысловымі і сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі Віцебшчыны, з навуковымі ўстановамі вобласці. Напрыклад, Старшыня Савета Рэспублікі Павел Шыпук у гэты дзень пабываў на прыборабудаўнічым заводзе, дзе яшчэ і выступіў з прамовай на тэму ролі Нацыянальнага сходу ў сацыяльна-эканамічным развіцці краіны. Ён таксама пазнаёміўся з вытворчасцю кандытарскіх вырабаў на камбінаце «Віцьба» і з Віцебскім абутковым прадпрыемствам «Марко». Адначасова намеснік старшыні Савета Рэспублікі Тамара Дудко сустрэлася з рабочымі ААТ «Сцяг індустрыялізацыі» і расказала пра дзейнасць палат беларускага парламента.

Старшыні пастаянных камісій Савета Рэспублікі таксама актыўна ўдзельнічалі ў семінары. Мікалай Чаргінец меў гутарку з супрацоўнікамі абласной пракуратуры, сустракаўся са студэнтамі Віцебскага дзяржуніверсітэта. У Оршы Міхаіл Матусевіч з калегамі гутарылі аб ролі парламента і развіцці заканадаўства ў галіне рэфарміравання эканомікі. Пра аграрную палітыку разважалі ўдзельнікі семінара ў Докшыцкім раёне, дзе «гасцілі» старшыня Пастаяннай камісіі па рэгіянальнай палітыцы Альфонс Ціцкевіч і прадстаўнікі Мінсельгасхарча. Кіраўнік Пастаяннай камісіі па заканадаўству і дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Каравай у гэты дзень знаходзіўся ў Полацку, дзе ўдзельнікі семінара дзяліліся думкамі наконт сістэматызацыі і кадыфікацыі рэспубліканскага заканадаўства. У Пастаўскім раёне ўзнімаліся праблемы сацыяльнай палітыкі дзяржавы.

Як адзначыў падчас работы семінара Павел Шыпук, падобныя мерапрыемствы дазваляюць праводзіць шмат сустрэч, таму вельмі карысныя як для заканадаўцаў, так і для суб'ектаў гаспадарання. Па-першае, парламентарыі маюць магчымасць непасрэдна пазнаёміцца не толькі з дзейнасцю прадпрыемстваў, але і даведацца «з першых вуснаў» пра патрэбы вытворцаў, могуць атрымаць карысныя заўвагі і пажаданні адносна сваёй дзейнасці. З другога боку, рабочыя і кіраўніцтва прадпрыемстваў атрымліваюць без пасрэднікаў інфармацыю пра бягучую дзейнасць і планы заканадаўцаў.

Напрыклад, падчас наведвання прадпрыемства «Марко» яго кіраўніцтва пацікавілася варыянтамі вырашэння такой праблемы, як абавязковы продаж замежнай валюты на біржы. Для вытворцаў, якія маюць справу з імпартам і экспартам, 30-працэнтны продаж валюты сапраўды надзвычай актуальная праблема. Павел Шыпук, які напярэдадні прысутнічаў на пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў, заўважыў, што гэтае пытанне таксама ўзнімалася ва ўрадзе. Зараз прапануецца або зменшыць колькасць сродкаў, якія прадпрыемствы павінны абавязкова прадаваць, або наогул адмяніць абавязковы продаж. Аднак на апошні крок дзяржава наўрад ці пойдзе, паколькі адразу ж узнікне іншая праблема: адкуль браць валюту для разлікаў за тыя ж расійскія энергарэсурсы?

У чацвер усе ўдзельнікі семінару сабраліся ў Віцебскім аблвыканкаме, дзе былі падведзены вынікі. Старшыня аблвыканкама Уладзімір Андрэйчанка, які, як вядома, адначасова з'яўляецца і членам Савета Рэспублікі, адзначыў, што падобны семінар праводзіўся ўпершыню. «Не варта адразу чакаць канкрэтных змен, — сказаў ён. — Важна тое, што заканадаўцы здолелі параўнаць свае планы з чаканнямі людзей, якія ствараюць эканамічны дабрабыт нашай дзяржавы. А ведаючы, якія законы сёння патрэбны дзяржаве, значна прасцей займацца заканатворчасцю». Павел Шыпук падтрымаў гаспадара і падкрэсліў, што Нацыянальны сход будзе імкнуцца не толькі не замінаць вытворцам, але і дапамагаць развіццю беларускай эканомікі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ,**
**спецыяльны карэспандэнт.**

# У КІРГІЗІІ ПАЧАЛАСЯ ЗДАБЫЧА ЗОЛАТА З ДАПАМОГАЙ... САРОК

На поўначы Кыргызстана у Нарынскай вобласці пачалася здабыча золата з дапамогай сарок.

Паводле сведчанняў відавочцаў, нелегальныя здабытчыкі каштоўнага металу ў масавым парадку скупляюць у мясцовых жыхароў гэтых птушак. На некалькі дзён садзяць іх на галодную дыету, пасля чаго выпускаюць у шахты пакінутых золатаносных радовішчаў, дзе птушкі паглынаюць перш за ўсё бліскучыя крупінкі пароды, у тым ліку і залаты пясок. У шэрагу выпадкаў пасля ўскрыцця сарокі шчаслівыя могуць знайсці да 300 грамаў залатога пяску.

Як паведамілі агенцтву «Інтэрфакс», у шэрагу сельскіх упраў Нарынскай вобласці, паляванне на птушак з далейшым выкарыстаннем іх прыроднай цікаўнасці прыняло ўжо масавы характар, у сувязі з чым цана на адну сароку дасягае 15—20 доларaў ЗША.

**ІНТЭРФАКС.**

*ПОГЛЯД*

# З АДСТАЎКІ ЎРАДА Ў РАСІІ ПАЧАЛАСЯ ПЕРАДВЫБАРНАЯ КАМПАНІЯ?

Нечаканае рашэнне прэзідэнта Барыса Ельцына аб адстаўцы ўсяго саставу Кабінета Міністраў на чале з прэм'ерам Віктарам Чарнамырдзіным стала галоўнай навіной мінулага дня. І, відавочна, гэты крок акажа ўплыў на развіццё палітычных падзей у суседняй дзяржаве не толькі ў бліжэйшыя месяцы, але нават да моманту чарговых выбараў прэзідэнта Расійскай Федэрацыі.

Ужо сёння многія аналітыкі ў Маскве надаюць рашэнню Ельцына выключна палітычны характар. У звароце да суайчыннікаў кіраўнік Расіі не змог дакладна назваць прычыны адстаўкі Кабінета Міністраў. Яго заява пра тое, што «сённяшні састаў урада не справіўся з шэрагам ключавых пытанняў», заўвагі наконт «недахвату дынамізму і ініцыятывы, новых поглядаў і падыходаў» выглядае сама меней недарэчнай на фоне папярэдніх слоў, дзе Ельцын вельмі цёпла, па-сяброўску выказваецца пра Чарнамырдзіна як пра вернага, надзейнага саратніка, цалкам адданага справе рэформаў. І тым больш пры наяўнасці сур'ёзных эканамічных прычын для адстаўкі ўрада, пры недахопах яго дзейнасці наўрад ці атрымаў бы Чарнамырдзін ордэн «За заслугі перад Айчынай» (II ступені) з красамоўнай фармулёўкай «за работу ва ўрадзе».

Часткова кропкі над «і» расставіў сам Ельцын. «Для нас вельмі важнае значэнне маюць выбары двухтысячнага года, — падкрэсліў ён. — Можна сказаць, што гэта далейшы лёс Расіі. І я даручыў Чарнамырдзіну засяродзіцца на палітычнай падрыхтоўцы да гэтых выбараў». Гэтым самым Б. Ельцын прама пацвердзіў, што цяпер В. Чарнамырдзін непасрэдна зоймецца падрыхтоўкай да прэзідэнцкіх выбараў 2000 года.

Ад адказу на пытанне, ці будзе ён непасрэдна ўдзельнічаць у выбарах, В. Чарнамырдзін пакуль ухіляецца. Але разам з тым ён прызнае, што ўчора на сустрэчы з Ельцыным ён абмяркоўваў некаторыя кандыдатуры на пасаду прэзідэнта на маючых адбыцца выбарах.

Сапраўды, пытанне, на каго ж паставіла расійская партыя ўлады ў распачатай гульні, застаецца вельмі актуальным. У сённяшняй сітуацыі, грунтуючыся на выказваннях расійскіх палітыкаў, можна толькі будаваць прагнозы. Напрыклад, улічваючы папярэднія заявы Ельцына аб нежаданні балаціравацца на трэці тэрмін, улічваючы палажэнні расійскай канстытуцыі, прэтэнзіі Чарнамырдзіна на прэзідэнцкі партфель здаюцца вельмі верагоднымі. З гэтага пункту гледжання ўчарашнія падзеі падаюцца больш чым лагічнымі. У звароце да расіян Ельцын даў зразумець, што выбраў годнага пераемніка, які цяпер, вызваліўшыся ад спраў дзяржаўнай важнасці, цалкам можа прысвяціць сябе адной справе — барацьбе за галасы выбаршчыкаў. У выпадку перамогі Чарнамырдзіна на прэзідэнцкіх выбарах трэба чакаць, што члены сённяшняга ўрада, частка якіх таксама аказалася ў адстаўцы, праз два гады зноў вернуцца да ўлады.

Учора ж пачалося фарміраванне новага саставу ўрада Расійскай Федэрацыі. Міністр паліва і энергетыкі Сяргей Кірыенка быў прызначаны выконваючым абавязкі старшыні ўрада і адначасова першым віцэ-прэм'ерам, заняўшы, такім чынам, пасаду Анатоля Чубайса. Прэс-сакратар Ельцына Сяргей Ястржэмбскі даў зразумець, што менавіта ад Кірыенкі будуць зыходзіць прапановы аб далейшым кадравым саставе Кабінета Міністраў. Згодна з прагнозамі назіральнікаў, канчаткова ўрад мяркуецца сфарміраваць да адлёту Ельцына ў Японію 11—13 красавіка.

Палітычная эліта Расіі, здаецца, адышла ад першай нечаканасці і задалася галоўным на сённяшні дзень пытаннем: хто будзе прапанаваны на пасаду прэм'ера? У Маскве называецца шмат прозвішчаў — Рыбкін, Строеў, Яўлінскі, Сысуеў, Нямцоў і іншыя. Аднак канчатковае рашэнне будзе, безумоўна, за Ельцыным.

Тым не менш, відавочна, што ў сённяшняй сітуацыі, калі далейшыя падзеі ў Расіі будуць развівацца пад знакам парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў, гэта можа аказацца не вельмі прынцыповым, паколькі новы ўрад будзе выконваць часовую ролю «каліфа на гадзіну». Таму не трэба чакаць, што новыя фігуры ў Кабінеце Міністраў (дарэчы, не выключана, што многія міністры застануцца на ранейшых месцах) пачнуць праводзіць новую палітыку. Ельцын ускосна пацвердзіў гэта. «Адстаўка ўрада не азначае перамены курсу нашай палітыкі, — заявіў расійскі прэзідэнт. — Гэта імкненне надаць эканамічным рэформам больш энергіі і эфектыўнасці, даць ім дадатковы штуршок, новы імпульс. Гэта натуральны працэс — абнаўленне ўлады».

Складана сёння спрагназіраваць, як адаб'юцца кадравыя перастаноўкі ў расійскім урадзе на ўзаемаадносінах Расіі з Беларуссю. Адстаўка ўрада аказалася не менш нечаканай і для беларускіх палітыкаў. Усякія спробы «Звязды» атрымаць учора каментарый ва ўрадзе і Міністэрстве замежных спраў аказаліся безвыніковымі.

Калі верыць словам Ельцына аб нязменнасці курсу, то, магчыма, характар кантактаў застанецца ранейшым. Хаця нельга не заўважыць таго факта, што ў адстаўку адпраўлены А. Чубайс, які займаў у адносінах да Беларусі зусім не адназначную пазіцыю. Але з вялікай доляй верагоднасці можна казаць і пра тое, што працэс рэфарміравання Кабінета Міністраў зойме пэўны час. Расія будзе вымушана вырашаць унутраныя праблемы, таму наўрад ці у гэты перыяд адбудзецца нейкая актывізацыі кантактаў з Беларуссю. Нават напярэдадні 2 красавіка — дня нараджэння Саюза Беларусі і Расіі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ХРОНІКА АПОШНІХ ПАДЗЕЙ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Прэс-сакратар прэзідэнта Ястржэмбскі заявіў, што незалежна ад месца новай работы Чубайс застанецца ў камандзе прэзідэнта. Тое ж самае пацвердзіў і сам Чубайс.

Зняты з пасад віцэ-прэм'ера і міністра ўнутраных спраў Анатоль Кулікоў. Выкананне абавязкаў кіраўніка МУС часова ўскладзена на начальніка Галоўнага штаба міністэрства Паўла Маслава.

***Лідэры вядучых дзяржаў пакуль устрымліваюцца ад каментарыяў з нагоды адстаўкі ўрада Расіі.*** Прадстаўнік Белага дома сп. Маккеры заявіў толькі, што кіраўніцтва ЗША ў курсе таго, што адбываецца. Канцлер ФРГ Г. Коль палічыў неабходным самому пазваніць Ельцыну. Прэм'ер-міністр Японіі Р. Хасімота выказаў спадзяванне, што адстаўка расійскага ўрада не паўплывае негатыўна на адносіны паміж дзвюма краінамі. Між тым, прадстаўнік урада Фінляндыі заявіў, што пакуль працягваецца падрыхтоўка да візіту Віктара Чарнамырдзіна, запланаванага на бліжэйшую пятніцу.

***На парламенцкіх выбарах у Малдове перамогу атрымалі камуністы,*** якія набралі каля 30 працэнтаў галасоў. Галоўны сапернік камуністаў — правая Дэмакратычная канвенцыя атрымала ўсяго 19 працэнтаў. Лідэр малдаўскіх камуністаў Уладзімір Воронін заявіў аб гатоўнасці супрацоўнічаць з іншымі партыямі для стварэння кааліцыйнага ўрада.

***Сем краін — буйнейшых экспарцёраў нафты аб'явілі аб рэзкім скарачэнні яе здабычы,*** каб спыніць далейшае падзенне нафтавых цэн на сусветным рынку. Услед за Саудаўскай Аравіяй, Венесуэлай і Мексікай аб гэтым сёння аб'явілі Іран, Кувейт, Аб'яднаныя Арабскія Эміраты і Аман. З лістапада мінулага года цана нафты ўпала з 19 долараў за барэль да 11,5 долара.

*(Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.)*

*ТРЫ ПЫТАННІ ДА ЧЫТАЧА*

**Уладзімір СЕЎРУК,**
**загадчык аддзела Адміністрацыі Прэзідэнта:**

# «ЭНЕРГІЧНА, БЕСКАМПРАМІСНА АДСТОЙВАЦЬ ПРАВЫ ПРОСТАГА ЧАЛАВЕКА...»

**— Чаму вы чытаеце «Звязду»?**

— Па «Звяздзе», яшчэ ў перадваенныя гады, яшчэ да школы, я вучыўся чытаць. Вучыўся беларускай мове...

Для мяне «Звязда» — легендарная старонка патрыятычнага руху ў святыя гады Вялікай Айчыннай вайны. Гэта адзіная рэспубліканская газета, якая выдавалася ў падполлі. І гэта для мяне, як для беларуса, уяўляе вялікі гонар, што менавіта беларускія журналісты пры дапамозе падпольшчыкаў, партызан змаглі здзейсніць сапраўдны подзвіг... Выпісваў «Звязду» і тады, калі працаваў на Поўначы. Часцінкай Беларусі была газета ў маёй хаце ў Магадане. Тут ёсць і асабістае. У «Звяздзе» працавала мая жонка — Ніна Аляксандраўна Сеўрук, якая потым стала лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР. Але школай для яе была «Звязда» — школай яскравай, адметнай журналістыкі. У «Звяздзе» працавалі і працуюць мае добрыя сябры. У рэшце рэшт, «Звязда» — гэта сейбіт беларускай культуры. Нельга ўявіць беларускую культуру без «Звязды». Як і беларускае мовазнаўства — без «Звязды»...

**— Чым падабаецца «Звязда»?**

— Адчуваю задаволенасць сучаснай беларускай мовай — і літаратурнай, і народнай. Газета не зрабіла ўхілу ні ў адзін бок. Ні ў тэхналагізацыю, лацінізацыю, ні ў бок архаізацыі. На маю думку, «Звязда» ствараецца на той мове, на якой разважае, на якой уяўляе сябе нацыя, на мове, на якой ствараецца наша духоўнасць.

Задавальняе ў «Звяздзе» і імкненне рэдакцыі, захоўваючы палітычную пазіцыю як дзяржаўнага выдання, даць магчымасць выказаць сваю думку аўтарам з рознымі меркаваннямі.

Але не буду крывіць душой, заўважу, што раз-пораз, здаецца, у газеце намагаюцца аблагодзіць радыкальны нацыяналізм і яго прадстаўнікоў у апазіцыі. А радыкалізм — ён заўсёды радыкалізм.

**— Што не падабаецца ў «Звяздзе»?**

— Газета страціла свае сацыяльныя зубы, якія былі вельмі вострыя ў абароне простага чалавека ў 1960—1970-я гады, пакуль уся савецкая прэса, і «Звязда» ў тым ліку, не з'ехала ў багну палітыкі. Энергічна, бескампрамісна адстойваць правы селяніна, студэнта, настаўніка, простага, словам, чалавека — гэтая задача сёння яшчэ болей надзейная, бо кожны чалавек заўсёды можа застацца сам-насам з бядою. Новыя нормы абароны правоў, хаця ўсё і гарантавана, яшчэ не ўсталяваліся як след. Хаця раз-пораз вострыя матэрыялы такога роду з'яўляюцца. Але ў вёсцы сёння культура ўлады ніжэй, чым у вялікіх гарадах. І каб нешта зрушыць — патрэбна сістэма.

Другі важкі недахоп. Пісьмы чытачоў рэдка становяцца нагодай для абагульненняў. Хачу, каб на выступленні «Звязды» была рэакцыя ўлады і прэзідэнта. Але гэта і ад газетных выступленняў патрабуе глыбіні, дзяржаўнага сэнсу. Такія выступленні патрэбныя, якія б зварухнулі грамадскую думку.

Усё ж такі «Звязда» — лідэр беларускамоўнай журналістыкі. І вельмі важна, улічваючы, што большасць людзей чытае адну газету, каб быў у «Звяздзе» надзейны міжнародны аддзел. Тым болей, што зараз ужо на свет ёсць не агульнасавецкі пункт гледжання, а беларускі. І ёсць беларускія дыпламаты-публіцысты.

І вось што. Гады два таму «Звязда» пачала адкрываць невядомыя старонкі партызанскай вайны. А зараз гэта вельмі важна. І сёння мы яшчэ не ведаем усёй праўды аб маштабах усенароднага супраціўлення. Мы яшчэ не асэнсавалі тую эпахальную гістарычную з'яву, калі кожная беларуская сям'я ўдзельнічала ў барацьбе з гітлераўцамі. Я згадваю гэтую тэму таму, што ў свой час быў уражаны, захоплены матэрыяламі Таццяны Паляк аб вайне. А зараз магчымасцяў яшчэ больш. Працягвайце тэму. Аднавіце праўду, вярніце добрыя імёны людзей, якія па загаду партызан працавалі ў нямецкіх установах, хадзілі пад прывідам гестапаўскай шыбеніцы, а потым свае ж загналі іх у канцлагеры. Калі каго і выпусцілі, то не ўсім вярнулі добрае імя. Я не пра здраднікаў кажу, а пра канкрэтных людзей, якія выконвалі свой патрыятычны абавязак.

Звярніце ўвагу і на моладзь. Праўда, не забывайцеся, для моладзі патрэбна іншая журналістыка. Гэта не абавязкова дзівосны секс і хард-рок. Але ў моладзі свае субкультуры. Праўда, не блытайце гэта з ненарматыўнай лексікай.

І яшчэ. Хай на мяне абураюцца фотарэпарцёры, але няма сёння беларускай фотапубліцыстыкі. Раней жа як? Сам здымак — гэта ідэя, гэта мастацтва. Я пажадаў бы «Звяздзе» стаць тут піянерам. Тым болей, што падставы, пэўныя вопыт ёсць.

Вельмі спадзяюся, што адновіце і фельетон. Здаецца, ён увогуле знік у беларускай журналістыцы.

Што яшчэ?.. Галоўнае — працаваць настойліва, карпатліва, штодзённа. А так... Добрага вам усім здароўя! І сабе хачу пажадаць — дажыць да стагоддзя «Звязды». Тады, спадзяюся, і заўваг будзе меней.

**Запісаў**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ДЛЯ ЗАМЕЖНЫХ ТУРЫСТАЎ УВОДЗЯЦЦА ВАЎЧЭРЫ НОВАГА ЎЗОРУ

Новы адзіны турыстычны ваўчэр на прыём замежных турыстаў уводзіцца ў Рэспубліцы Беларусь з 1 красавіка 1998 года.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе Міністэрства замежных спраў нашай краіны, гэта робіцца з мэтай паляпшэння арганізацыі і кантролю турыстычна-экскурсійнай дзейнасці беларускіх суб'ектаў гаспадарання.

Бланк новага адзінага ваўчэра для прыёму замежных турыстаў выконваецца ў светла-карычневым колеры на самакапіравальнай паперы і складаецца з арыгіналу, які застаецца ў кліента да завяршэння тэрміну дзеяння дагавора, і трох копій, што служаць справаздачнымі дакументамі.

На тэрмін да 1 чэрвеня 1998 года ўстанаўліваецца пераходны перыяд, на працягу якога ў якасці падставы для афармлення беларускай турыстычнай візы могуць прымацца і ваўчэры тых формаў, што выкарыстоўваліся раней. У далейшым, разам з новымі ўзорамі адзінага ваўчэра, падставай для афармлення беларускай турыстычнай візы таксама будзе з'яўляцца пацвярджэнне беларускай юрыдычнай асобы аб браніраванні месцаў з указаннем рэферанцкага нумара прымаючага боку.

**БЕЛТА.**

# У МІНСКУ АДЗНАЧЫЛІ 80-Ю ГАДАВІНУ АБВЯШЧЭННЯ БНР

22 сакавіка ў Мінску прайшлі санкцыяніраваныя мясцовымі ўладамі святочныя мерапрыемствы з нагоды 80-х угодкаў аб'яўлення незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. У шэсці па цэнтральным праспекце сталіцы удзельнічалі тысячы мінчан і жыхароў многіх іншых беларускіх гарадоў. Калона ішла пад лозунгам «БНР — наша будучыня ў XXI стагоддзі» са шматлікімі бела-чырвона-белымі сцягамі, транспарантамі. Суправаджаў яе духавы аркестр, які іграў нацыянальныя гімны. Эмблемай свята быў абраны папяровы бусел.

Мітынг, як і шэсце, прайшлі спакойна. Аднак калі яго ўдзельнікі пачалі разыходзіцца, некаторыя групы, пераважна моладзь, у святочным настроі дазволілі сабе нейкія вольнасці, у прыватнасці прайсці па тратуары, узяўшыся за рукі і выкрыкваючы «Жыве Беларусь!». Былі нават адзначаны выпадкі процістаяння з міліцэйскімі кардонамі. Органы міліцыі расцанілі гэтыя падзеі як несанкцыяніраванае шэсце і затрымалі некалькі дзесяткаў чалавек, пераважна іншагародняй моладзі. Яны былі дастаўлены ў раённыя аддзелы унутраных спраў, дзе некаторых пасля высвятлення асобы выпусцілі, у тым ліку траіх журналістаў і пяцярых назіральнікаў Беларускага Хельсінскага камітэта. Частка ж затрыманых за кратамі ноч з 22 на 23 сакавіка чакала судовага разбору.

23 сакавіка гэтыя разборы прайшлі ў некалькіх судах горада Мінска. У прыватнасці, у Цэнтральным райсудзе суддзя А. Барысёнак разглядаў адміністрацыйныя справы па арт. 167 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях у адносінах да дзевяці маладых чалавек з Брэста, Гомеля і Магілёва. У выніку большасць з гэтай групы была папярэджана, а двое атрымалі штрафы ў памеры 500 тысяч і 5 мільёнаў рублёў.

Тым часам у гарадскім судзе Мінска 23 сакавіка пачаўся крымінальны працэс па абвінавачванню 23-гадовага Вадзіма Кабанчука за інцыдэнты на аналагічным святкаванні гадавіны БНР год таму. Кабанчук знаходзіцца пад следствам з кастрычніка мінулага года. Яму інкрымінуецца ўдзел у групавых дзеяннях, якія парушалі грамадскі парадак, і супраціўленне работнікам міліцыі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»



**Распачатая ў органах пракуратуры рэформа падрыхтоўкі і выхавання кадраў, на першы погляд, падалася мне справай не толькі заўчаснай, але нават і шкоднай. Злачыннасць наступае, злачынцы звярэюць, а кіраўніцтва пракуратуры вырашыла ў гэтай складанай крымінагеннай сітуацыі правесці кадравую рэформу. Здаўна ж вядома, што коней на пераправе не мяняюць.**

**Аднак намеснік Генеральнага пракурора краіны Віктар ВАЛЮШКА развеяў гэтыя мае сумненні і апасенні. Сёння найважнейшай задачай пракуратуры з'яўляецца не толькі барацьба са злачыннасцю, але і забеспячэнне законнасці ў гэтай барацьбе. І менавіта пракурорскія кадры нярэдка вырашаюць лёс як асобнага чалавека, так і ўсяго грамадства, бароначы яго ад злачыннай навалы. Ды і з памылкамі следства і суддзяў мы сутыкаемся яшчэ даволі часта, і што, самае крыўднае, не заўсёды гэтыя памылкі своечасова выпраўляюцца пракурорамі.**

**Так што ўзрослыя апошнім часам патрабаванні да пракурорскіх работнікаў, сапраўды, зусім не прыхамаць начальства, а жыццёвая неабходнасць.**

**Аб падрыхтоўцы і выхаванні пракурорскіх кадраў карэспандэнту «Звязды» расказвае намеснік Генеральнага пракурора Беларусі Віктар ВАЛЮШКА.**

### *Віктар ВАЛЮШКА:*

# «СУЧАСНЫ ПРАКУРОР ПАВІНЕН БЫЦЬ НЕ ТОЛЬКІ ВЫСОКАКВАЛІФІКАВАНЫМ ЮРЫСТАМ, АЛЕ І ПАЛІТОЛАГАМ, ПСІХОЛАГАМ, ЭКАНАМІСТАМ І НАВАТ ДЫПЛАМАТАМ»

## *У беларускай пракуратуры адбываецца атэстацыя і ратацыя кадраў*

**— Віктар Міхайлавіч, з'яўленне новых камерцыйных структур парадзіла вялікі попыт на прафесіяналаў з праваахоўных органаў. Больш высокая аплата працы, пэўна, прыцягнула у камерцыйныя структуры нямала кваліфікаваных пракурорскіх кадраў. Ці вырашаны зараз у пракуратуры дэфіцыт кадраў?**

— Сапраўды, быў час, калі з пракуратуры, скажам так, па матэрыяльных прычынах, сышло нямала кваліфікаваных спецыялістаў. Аднак прыняты Закон «Аб Пракуратуры Рэспублікі Беларусь», шэраг іншых нарматыўных дакументаў істотна ўдасканалілі дзейнасць пракуратуры, палепшылі ўмовы аплаты працы і быту пракурорскіх работнікаў. Такі клопат з боку дзяржавы стварыў выдатныя умовы для папаўнення органаў пракуратуры кваліфікаванымі кадрамі. Многія былыя нашы супрацоўнікі, якія ў свой час сышлі ў камерцыйныя структуры, вярнуліся назад. Вельмі радуе таксама, што прафесія пракурора апошнім часам стала папулярнай сярод моладзі. У адным толькі Мінску зараз жадаюць заняць пракурорскія вакансіі каля 100 юрыстаў, пераважна маладога ўзросту.

На сённяшні дзень у органах пракуратуры Беларусі працуюць 1950 аператыўных работнікаў. Калектывы паступова абнаўляюцца. Зараз ідзе змена пакаленняў. Апошнім часам мы прынялі на працу больш за 100 маладых спецыялістаў. Наогул, у 1997 годзе, згодна з указам прэзідэнта краіны, штаты пракуратуры павялічаны на 159 чалавек.

**— І хто ж запаўняе сёння пракурорскія вакансіі? Якія зараз крытэрыі адбору для працы ў органах пракуратуры?**

— Пачну з адказу на другое пытанне. Крытэрыі адбору на працу ў пракуратуру зараз больш высокія, чым раней. Сучасны пракурор павінен быць не толькі высокакваліфікаваным юрыстам, але яшчэ і палітолагам, псіхолагам, эканамістам і нават дыпламатам. Інакш кажучы, супрацоўнік пракуратуры павінен быць высокаэрудзіраваным чалавекам, паколькі яму часам неабходна аналізаваць складаныя эканамічныя і грамадскія праблемы. Вядома ж, работнік пракуратуры павінен не толькі дасканала валодаць нарматыўнай базай, якая вокамгненна мяняецца, але і ўмець прымяняць законы на практыцы.

Да таго ж пракурорскі работнік павінен быць проста сумленным і добрым чалавекам. Гэтыя якасці пракурора нярэдка дапамагаюць многім людзям, якія трапілі ў бяду, лягчэй перанесці сваё гора. У рэшце рэшт, наша галоўная задача і заключаецца ў абароне правоў і свабод канкрэтнага грамадзяніна.

Хачу адзначыць, што апошнім часам мы праводзім атэстацыю работнікаў пракуратуры. Летась было атэставана 516 пракурорска-следчых работнікаў, у 1999 годзе атэстацыя павінна завяршыцца.

Прычым, калі раней праца пракурораў ацэньвалася толькі колькаснымі паказчыкамі, то зараз апроч прафесійных якасцяў немалаважнае значэнне маюць і маральная чысціня, чалавечнасць, палітычная неангажыраванасць.

Што да пытання якасці падрыхтоўкі кадраў, то тут існуюць пэўныя праблемы. Пасля распаду СССР мы засталіся фактычна без навуковай базы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі пракурораў. Зараз, праўда, былыя сувязі з адпаведнымі навучальнымі ўстановамі Расіі аднаўляюцца. У інстытутах павышэння кваліфікацыі пры Генеральнай пракуратуры Расіі сёлета прайшлі перападрыхтоўку 6 нашых пракурорскіх і следчых работнікаў, у навучальным цэнтры пры нашай пракуратуры — 180.

У Беларусі на сённяшні дзень падрыхтоўкай юрыстаў займаюцца 7 дзяржаўных і 10 недзяржаўных ВНУ. Але недзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы не спецыялізуюцца на падрыхтоўцы пракурораў. Таму пасля заканчэння гэтых ВНУ да нас прыходзяць маладыя спецыялісты, якія яшчэ не гатовы выконваць складаную працу пракурора ці следчага. Даводзіцца праводзіць для іх паглыбленыя стажыроўкі, выдаваць індывідуальныя планы. На пасаду маладыя спецыялісты прызначаюцца толькі пасля паспяховага выканання праграмы стажыравання.

**— Дарэчы, Віктар Міхайлавіч, паколькі на пракуратуру, апроч нагляду за выкананнем законнасці, ускладзена таксама задача барацьбы са злачыннасцю, ці вызначаны тут пэўныя прыярытэтныя напрамкі?**

— Так, сапраўды, згодна з патрабаваннямі прэзідэнта Беларусі, мы апошнім часам сканцэнтравалі асноўную ўвагу на барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, тэрарызмам, займаемся расследаваннем злачынстваў у банкаўскай, крэдытна-фінансавай сферы, у мытных і падатковых органах.

**— А як вы змагаецеся за чысціню пракурорскіх радоў?**

— Вядома ж нас вельмі непакоіць чысціня органаў пракуратуры. Мы пазбаўляемся і будзем пазбаўляцца не толькі ад карумпіраваных супрацоўнікаў, але і ад тых, хто не выконвае належным чынам свае абавязкі. Генеральным пракурорам прынята рашэнне аб стварэнні спецыяльнага падраздзялення, якое сочыць за чысцінёй нашых шэрагаў — інспекцыі па асабоваму саставу. Праўда, з радасцю хачу адзначыць: плямы на пракурорскім мундзіры з'яўляюцца не вельмі часта. Летась да крымінальнай адказнасці быў прыцягнуты толькі адзін супрацоўнік пракуратуры і пяцярых мы звольнілі за ўчынкі, якія дыскрэдытуюць пракурорскую прафесію.

Але гэта, як бачна, адзінкавыя выпадкі. Пераважная большасць нашых супрацоўнікаў — людзі высокамаральныя, прынцыповыя, сумленныя і мужныя.

**— У пракуратуры нядаўна створаны аддзел па бяспецы і абароне інфармацыі. Чым гэта выклікана?**

— Пракуроры сёння знаходзяцца на пярэднім краі барацьбы са злачыннасцю. Вядома, арганізаваная злачыннасць праяўляе павышаную цікавасць да інфармацыі, якой валодаюць нашы супрацоўнікі. Улічваючы, што зараз многія злачынныя групоўкі маюць самую сучасную спецтэхніку (падслухвальную і іншую апаратуру), у пракуратуры вельмі неабходны спецыялісты, якія б займаліся аховай і абаронай важнай інфармацыі. З гэтай мэтай і створаны новы аддзел.

Апроч таго, прафесія пракурора становіцца адной з самых небяспечных, бо нярэдка нашы супрацоўнікі ўдзельнічаюць у выкрыцці асабліва небяспечных злачынцаў. Вядома ж, мы проста абавязаны забяспечыць сваім супрацоўнікам бяспеку.

**— Мясцовыя органы ўлады часам злоўжываюць сваімі правамі і ўводзяць шэраг падаткаў і збораў. Ці заўсёды пракуроры адэкватна рэагуюць на такія факты беззаконнасці? І ўвогуле, на вашу думку, як забяспечыць самастойнасць і непрадузятасць рэгіянальных пракурораў?**

— Не бачу ў гэтым асаблівых праблем. На сённяшні дзень пракуратура з'яўляецца адзінай цэнтралізаванай сістэмай, на якую ўскладзены нагляд за дакладным выкананнем законаў. Для паспяховага вырашэння гэтых задач мы маем дастаткова паўнамоцтваў.

Іншая справа, што, на жаль, ёсць такія нашы супрацоўнікі, якія не ў поўнай меры карыстаюцца сваімі правамі. Відавочна, што сёй-той і не хоча псаваць цёплых адносінаў з мясцовым начальствам.

Таму апошнім часам мы пачалі ратацыю пракурорскіх кадраў. Пракуроры, якія адпрацавалі ў адным месцы звыш 10 гадоў, будуць пераводзіцца ў іншыя рэгіёны. Летась, у адпаведнасці з загадам Генеральнага пракурора, была праведзена ратацыя 43 раённых пракурораў, якія адпрацавалі ў адным месцы звыш двух пяцігадовых тэрмінаў. Сёлета мы правядзём ратацыю абласных пракурораў. Гэта дазволіць не толькі пазбегнуць з'яўлення ў пракурорскіх шэрагах карупцыі і месніцтва. У выніку ратацыі на кіруючыя пасады на месцах ужо прыйшлі і яшчэ прыйдуць нямала таленавітых супрацоўнікаў, якія, я ўпэўнены, здолеюць арганізаваць працу органаў пракуратуры на яшчэ больш высокім якасным узроўні.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

### *ПЫТАЛЬНІК*

## ЯКІЯ ЛЬГОТЫ МАЮЦЬ АХВЯРЫ, ПАЦЯРПЕЛЫЯ АД ПАЛІТЫЧНЫХ РЭПРЭСІЙ



***Мой бацька ў верасні 1937 года быў рэпрэсіраваны, у кастрычніку таго ж года — расстраляны. Я і брат ва ўзросце 2 і 3 гадоў засталіся з маці. Дзяцінства наша было галодным і халодным. У 1997 годзе, пасля смерці маці (мы не хацелі бярэдзіць яе раны), мы з братам атрымалі дакументы з Новасібірскага трыбунала і ад пракурора Томскай вобласці аб прызнанні нас пацярпелымі ад палітычных рэпрэсій. Праз вашу газету хацелася б даведацца, якія льготы распаўсюджваюцца на нас?***

**Без подпісу, г. Віцебск**

Зварот чытача быў разгледжаны ў Міністэрстве сацыяльнай абароны. У адказе, у прыватнасці, паведамляецца, што ў 1995 годзе ў Рэспубліцы Беларусь ажыццяўлялася ўпарадкаванне многіх дзеючых на яе тэрыторыі льгот і пераваг розных катэгорый грамадзян. Так, было прыпынена дзеянне некаторых заканадаўчых актаў, якія датычалі прадастаўлення льгот, у тым ліку і ў адносінах да ахвяр і асоб, што пацярпелі ад палітычных рэпрэсій.

Міністэрства прадставіла пералік ільгот, якімі зараз карыстаюцца ўказаныя катэгорыі грамадзян. Гэта:

— 50-працэнтная скідка з кошту праезду (як ветэранам працы) мужчынам, што дасягнулі 60 гадоў і жанчынам — 55 гадоў, на ўсіх відах гарадскога і прыгараднага пасажырскага транспарту (акрамя таксі), а пражываючым у сельскай мясцовасці — на аўтобусных маршрутах у межах адміністрацыйнага раёна па месцы жыхарства;

— 50-працэнтная скідка з кошту лякарстваў, а для інвалідаў з-за працоўнага калецтва і іншых прычын (за выключэннем асоб, інваліднасць якіх наступіла ў выніку процiпраўных дзеянняў) — бясплатнае набыццё лякарстваў па рэцэптах урачоў, якія іх лечаць;

— пераважнае забеспячэнне пуцёўкамі па месцы працы ці атрымання пенсіі ў санаторыі, прафілакторыі, дамы адпачынку;

— першачарговае абслугоўванне ў амбулаторна-паліклінічных і аптэчных установах, бясплатны выраб і рамонт зубных пратэзаў (за выключэннем пратэзаў з каштоўных металаў);

— першачарговая ўстаноўка тэлефона;

— бязвыплатная перадача ва ўласнасць (з улікам жыллёвай квоты, сумы квот) кватэр у межах 20 кв. м агульнай плошчай на кожнага члена сям'і;

— нечарговае атрыманне жылых добраўпарадкаваных памяшканняў у населеных пунктах, дзе яны пражывалі на момант рэпрэсій, а таксама шэраг іншых льгот і пераваг.

Як патлумачылі яшчэ ў міністэрстве, разам са спецыяльнымі льготамі для пацярпелых ад палітычных рэпрэсій пры наяўнасці ў іх падстаў яны карыстаюцца льготамі інвалідаў у адпаведнасці з Законам «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь», удзельнікаў ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Яшчэ ў адказе ўтрымліваецца папярэджанне: ахвяры і пацярпелыя ад палітычных рэпрэсій 20—80-х гадоў і былыя вязні месцаў прымусовага ўтрымання, створаных фашыстамі і іх саюзнікамі ў гады другой сусветнай вайны, — гэта розныя катэгорыі грамадзян, таму маюцца пэўныя адрозненні ў прадастаўляемых ім льготах і перавагах.

Падрабязна азнаёміцца з ільготамі, якія ўстаноўлены заканадаўствам для ўсіх катэгорый грамадзян, можна ў аддзеле сацыяльнай абароны па месцы жыхарства.

## ПРЫГОЖЫЯ ЗУБЫ — РАСКОША?



***Парайце, калі ласка, дзе ў Мінску можна якасна і па кішэні сярэдняга беларуса «зрабіць» прыгожыя зубы і пазбавіцца маршчынак пад вачамі?***

**Алена М., Гродзенская вобл.**

Паважаная Алена! Пачнём з таго, што не кожнаму сярэдняму беларусу вылечыць зубы ў платнай установе па кішэні. Мяркуйце самі. У сталічных кабінетах пратэзуюць зубы металакерамікай за 2,7—3,7 мільёна рублёў. Фотапалімерныя пломбы абыходзяцца кліентам у суму ад 750 да 2 мільёнаў рублёў. Зразумела, платныя паслугі выконваюцца якаснымі сучаснымі матэрыяламі і абсталяваннем. Гэтым, уласна, і тлумачыцца іх высокі кошт. Жаданне пазбавіцца маршчынак пад вачамі таксама наўрад ці давядзецца задаволіць. Найперш таму, што гэтую аперацыю выконваюць у Цэнтры пластычнай хірургіі, што знаходзіцца ў 6-й клінічнай бальніцы на вуліцы Уральскай, толькі пры паказаннях. Трэба спачатку звярнуцца па кансультацыю да спецыяліста, якая, дарэчы, даецца бясплатна. Ну а потым, калі дазвол будзе атрыманы, шукайце суму, эквівалентную 350 доларам. Столькі каштуе ў цэнтры аперацыя па выдаленню маршчынак на верхнім і ніжнім павеках.



# І было свята Савецкага раёна!

За гады свайго існавання цэнтральная глядзельная зала Белдзяржфілармоніі бачыла нямала самых прадстаўнічых дэлегацый. Вось і эпагей святкавання 60-й гадавіны Савецкага раёна, які праходзіў тут у мінулую суботу, выліўся ў незабыўны феерверк урачыстай узнёсласці, хараства, іскрыстай весялосці. Адметна, што на сцэне не было традыцыйнага для такога выпадку прэзідыума з наборам казёншчыны і штампаваных віншаванняў. Хоць у зале сабралася столькі славутасцяў, што наўрад ці знайшоўся б такі стол, за якім яны змаглі б размясціцца.

На сцэну ўзняўся віцэ-прэм'ер Генадзь Навіцкі, які зачытаў віншаванне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, а таксама ўручыў кіраўніку адміністрацыі Савецкага раёна Мінска Вінерыю Валчугу віншавальны ліст ад прэм'ер-міністра Сяргея Лінга. Са словамі прывітання ў адрас юбіляраў выступіў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч, які некалі працаваў у Савецкім райвыканкаме. І наогул гэты раён стаў свайго роду кузняй кадраў, у тым ліку і кіраўнікоў рэспубліканскага маштабу. Павіншавалі прысутных са знамянальным юбілеем кіраўнікі адміністрацый усіх раёнаў беларускай сталіцы, пасля чаго мэр Мінска Уладзімір Ярмошын зачытаў рашэнне гарвыканкама аб тым, што Савецкі раён прызнаны пераможцам у эканамічным спаборніцтве. Ён жа ўручыў юбілярам і своеасаблівы падарунак — мільярд рублёў на аснашчэнне медыцынскай апаратурай лепшай у горадзе 34-й паліклінікі. Віншаванні выказалі і кіраўнікі 16 буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў раёна, а таксама прадстаўнікі Валожынскага і Мядзельскага раёнаў Міншчыны, якія таксама паднеслі падарункі. Свой мільярд рублёў на развіццё сацыяльнай сферы раёна падаравалі і прадстаўнікі малога і сярэдняга бізнесу. Начальнік Акадэміі міліцыі генерал-лейтэнант Уладзімір Данько тут жа на сцэне ўручыў супрацоўніку Савецкага райаддзела міліцыі падарунак ад Міністэрства ўнутраных спраў — ключы ад «Опеля». Апладысментамі сустрэлі прысутныя і знакамітага тройчы алімпійскага чэмпіёна Аляксандра Мядзведзя...

А потым адбыўся святочны канцэрт. Словам, тры гадзіны, праведзеныя ў гэтай зале, праляцелі як адно імгненне. А значыць, свята ўдалося!

**Уладзімір ГОЙТАН.**

# КАБ ПАЧУЛІ!..

**Мінула ўжо некалькі месяцаў пасля першага з'езда настаўнікаў, а памяць яшчэ і яшчэ раз вяртае мяне ў канцэртную залу «Мінск», дзе на працягу двух кастрычніцкіх дзён ішло абмеркаванне становішча і перспектыў беларускага школьніцтва. Не сказаў бы, што было там вельмі ўжо сумна слухаць загадзя вызначаных прамоўцаў, што зусім не кранала атмасфера пэўнай урачыстасці і святочнасці, што не цяплела на сэрцы ад згадак уласных школьных гадоў. Але засталося ў душы і торгае, як вярэдлівая стрэмка, неадчэпнае адчуванне незадаволенасці і трывогі.**

І ДАКЛАД міністра В. Стражава быў дзелавы і спакойны, і дакументы прапаноўваліся дастаткова надзённыя і канкрэтныя, і на трыбуне былі прадстаўлены ўсе вобласці краіны, і афіцыйных глупстваў, як бывала раней, у застойныя часы, амаль не гучала, а вось не хоча рука пісаць, што адбылася прыкметная падзея ў духоўным жыцці Беларусі. Не таму нават, што ва ўсім была відна жорсткая заангажыраванасць, не таму, што зноў — і недарэчы — грымела барабанамі напісанае па канонах хрушчоўскіх партыйных з'ездаў прывітанне школьнікаў, складзенае, як гэта было відавочна, не надта ўмелымі трубадурамі піянерскага руху, не таму, што зала бяздумна пляскала некаторым злосным эмацыянальным «пераборам», а больш за ўсё і перш за ўсё таму, што, на жаль, мала было на з'ездзе аналітычнасці, роздуму, суаднесенасці з даўняй і блізкай гісторыяй, урэшце — прафесійнай споведзі. Усё хутчэй нагадвала вытворчую нараду, дзе асноўная ўвага лагічна ўдзялялася пытанням фінансавым і гаспадарчым, праблемам арганізацыйным і спецыяльным. Ці не таму найчасцей слова бралі большыя ці меншыя педагагічныя кіраўнікі: загадчыкі райана і дзіцячага садзіка, дырэктары школы і інстытута ўдасканалення, рэктар універсітэта... І калі раптам выходзілі на трыбуну так званыя «радавыя» — настаўнік матэматыкі 168-й мінскай школы Ул. Мартысюк і настаўнік гісторыі са Смалявіцкага раёна А. Шаўлюкевіч, — адразу мяняўся тон размовы і, акрамя дасведчанасці і заклапочанасці, гучалі яшчэ востры боль за сённяшні духоўны стан грамадства, шчымлівая занепакоенасць будучыняй наступных пакаленняў, якія павінны быць лепшымі і мудрэйшымі за нас. Малавата было такіх прамоў і такіх прамоўцаў. А так хацелася (ва ўсякім разе — мне), каб мілыя нашы настаўнікі высока ўзняліся над запушчаным школьным палеткам, на які штодзённа з надзеяй кідаюць яны зярняты разумнага, добрага, вечнага, агледзелі яго строга і прыдзірліва і вызначылі, дзе і якую зрабіць «праполку», а дзе і «перааараць» здабытыя, здзірванелыя ўзмежкі! Не змаглі, а можа не захацелі, а можа не для гэтага клікалі іх у сталіцу мажныя бацькі беларускай педагогікі...

Неўразуменне выклікала ў мяне тое, што ні ў шчырых абмеркаваннях, ні ў шумных кулуарах не сустрэў я ніводнага беларускага пісьменніка (Уладзімір Ліпскі і я прадстаўлялі на з'ездзе не літаратуру, а Дзіцячы фонд і Таварыства беларускай мовы). Было проста ніякавата не бачыць у агромністай зале тых, з чым мастацкім словам заслужана звязваецца выхаванне любові да Радзімы, адчуванне непаўторнай прыгажосці роднай прыроды, разуменне святла кахання і сяброўства, асалоды матчынай мовы. Уяўляю, якой рэдкай радасцю была б для пасланцаў з Палесся ці Прыдзвіння, хай і выпадковая, кароткая, гутарка з «жывымі» Янкам Брылём, Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Іванам Шамякіным, Нілам Гілевічам! А хіба не хацелася і з трыбуны паслухаць іхнія развагі і парады, іхнія ацэнкі і прадказанні ў пару сённяшняй грамадскай няпэўнасці і сумятні? Няўжо больш цікава і карысна для іх было шукаць хоць нейкага сэнсу ў пафаснай дэмагогіі юнага правадыра БПСМ Ус. Янчэўскага ці ў блытаных заклінаннях прэзідэнта славутага «Атланта» Л. Калугіна?. Ды шматвопытныя арганізатары з'езда не палічылі патрэбным запрашаць на свой гучна абвешчаны форум майстроў слова, з чыіх твораў, дарэчы, складзены амаль усе школьныя хрэстаматыі. Што ж, як кажуць, ім відней. А я, між тым, добра памятаю, якой агульнасаюзнай з'явай у свой час стала выступленне Аляксандра Твардоўскага на Усерасійскім з'ездзе настаўнікаў, як доўга потым звярталіся да яго і ў навуковых даследаваннях, і ў публіцыстычных артыкулах прызнаныя нашчадкі і паслядоўнікі Ушынскага. Думка ж выдатнага паэта аб тым, што родная літаратура «мае ключавое значэнне ва ўсім працэсе навучання і выхавання», што яна «фарміруе чалавечую свядомасць, светаразуменне, асобу чалавека ў пару яго найбольшай успрымальнасці, найбольшай уражлівасці і нават проста памятлівасці», па-мойму, была б — не як цытата, а як выснова — вельмі да месца на з'ездзе, дзе пра літаратуру чамусьці практычна не было ўспомнена наогул... Дай Божа, каб гэта была толькі прыкрая выпадковасць ці звычайны чыноўніцкі недагляд!..

Як заканамернасць успрыняў я ў гэтай сітуацыі дэманстратыўнае замоўчванне на з'ездзе балючых праблем, звязаных з месцам і роллю беларускай мовы ў сённяшняй школе. Нельга сказаць, што аб іх зусім не гаварылася, але яны толькі подбегам узгадваліся, так сказаць, абазначаліся — без даследавання сацыяльных і палітычных каранёў негатыўных працэсаў, без прасочвання прычын і механізмаў паўсюднага выцяснення роднага слова з практыкі навучання і выхавання дзетак. Быццам бы і пагаджаліся некаторыя прамоўцы, што адбываецца штосьці ненармальнае, але тут жа з палахлівай аглядкай ківалі на «аб'ектыўныя працэсы» і выяўленую на майскім рэферэндуме 1995 года волю «большасці насельніцтва». А горкая ж рэчаіснасць, па-мойму, патрабавала зусім іншых слоў і куды гарчэйшых эмоцый.

Калі яшчэ нядаўна ў Мінску было 130 школ са статусам беларускамоўных, дык зараз іх засталося 17. За тры апошнія гады, па падліках актывістаў Таварыства беларускай мовы, на рускую мову навучання пераведзена каля 27 тысяч юных мінчан, а гэта значыць — у сталіцы знікла тысяча беларускіх класаў. У Савецкім раёне няма ніводнай беларускамоўнай школы, а ў першы клас увосень мінулага года тут прыняты ўсяго 32 вучні. На радзіме выдатнага пісьменніка, усенародна любімага Уладзіміра Караткевіча няма ніводнага беларускамоўнага вучня ў першым класе... І гэта — не сумныя выключэнні, гэта, на жаль, тыповая з'ява ў нашай суверэннай дзяржаве.

Госць з суседняй украіны М. Лукашэвіч, дарэчы, паведаміў з трыбуны з'езда, што ў іх 65 працэнтаў школ — украінскія і ва ўкраінскія класы ў гэтым навучальным годзе прыйшоў 71 працэнт усіх першакласнікаў... У прэзідыуме хутчэй за ўсё абыякава прапусцілі гэтую інфармацыю міма закладзеных інтэграцыйнай ватай вушэй схіленыя над салíднымі стосамі неадкладных папер, перапоўненыя уласнай значнасцю і занятасцю прадстаўнікі ўладных стурктур, а было над чым задумацца і ім, і ўраду, і Міністэрству адукацыі, і сацыёлагам з палітолагамі...

Рада Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны афіцыйна прасіла арганізатараў настаўніцкага з'езда даць і мне магчымасць выступіць, але такое ласкі я не дачакаўся. Скажу шчыра, мяне гэта ніколькі не здзівіла, бо лёгка было здагадацца, пра што я буду гаварыць, як і відавочныя для ўсіх практычна непрыхаваныя раўнадушныя, а то і грэблівыя дзяржаўныя адносіны да матчынай нашай мовы. А я, прынамсі, не збіраўся адкрываць амерыку ці клікаць на барыкады. Я проста хацеў падзяліцца з блізкімі людзьмі, якімі заўсёды лічыў настаўнікаў, нялёгкімі сваімі развагамі і практычнымі прапановамі.

Што я меў намер сказаць?

Па-першае, я хацеў заклікаць вышэйшае кіраўніцтва Беларусі адпаведным дзяржаўным актам — дэкрэтам Прэзідэнта ці рашэннем парламента або ўрада — ацаніць нарэшце становішча беларускай мовы ў жыцці краіны, прызнаць яго па меншай меры ненармальным і акрэсліць канкрэтныя захады па кардынальнаму выпраўленню сітуацыі. Для гэтага, на маю думку, неабходна запатрабаваць ад усіх падраздзяленняў «вертыкалі», ад усіх чыноўнікаў у цэнтры і ў рэгіёнах забяспечыць, як мінімум, рэальную роўнасць беларускай і рускай моў ва ўсіх сферах дзейнасці грамадства — ад справаводства і заканадаўчай творчасці да навуковых даследаванняў і бытавога абслугоўвання (як, прынамсі, і патрабуюць вынікі рэферэндуму). І асабісты прыклад у гэтым павінны паказаць найвышэйшыя асобы дзяржавы. Першым жа практычным крокам мне бачыцца ўвядзенне ўжо з гэтага года патрабавання свабоднага валодання дзвюма дзяржаўнымі мовамі ўсіх дзяржаўных служачых, абавязковых уступных экзаменаў ва ўсе вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя установы па беларускай і рускай мовах, даплаты выкладчыкам школ, тэхнікумаў і ВНУ, якія чытаюць свае дысцыпліны на-беларуску. Гэта, безумоўна, запатрабуе сродкаў, але хіба зберажэнне душы народа, якой з'яўляецца яго мова, — менш значная патрэба, чым развіццё спартыўных баз і правядзенне фестываляў і святаў?..

Востра неабходна ў самыя сціслыя тэрміны распрацаваць і зацвердзіць жорсткую дзяржаўную праграму па падрыхтоўцы кадраў і падручнікаў для беларускіх школ.

Адным з самых сур'ёзных і найчасцей агучваемых пры расфарміраванні беларускамоўных класаў аргументаў прыводзіцца сапраўды відавочны факт: не хапае настаўнікаў, якія маглі б выкладаць па-беларуску, не хапае беларускіх падручнікаў. Зняць гэтую застарэлую праблему — святы абавязак дзяржавы, абавязак тых вучылішчаў, універсітэтаў, метадычных цэнтраў і выдавецтваў, якія фінансуе і кантралюе дзяржава. Калі ў нашай роднай Рэспубліцы Беларусь сапраўды ёсць нацыянальная палітыка і калі яна не антыбеларуская, зрабіць гэта можна і трэба. Бо што ж дзіўнага ў скарачэнні нацыянальных школ у Мінску, калі толькі за апошні час, напрыклад, у беларускія школы №№ 198, 37 дырэктарамі прызначаны людзі, якія не карыстаюцца беларускай мовай, а дырэктар школы № 202 Р. Саўчук не саромеецца бацькам чацвёртакласнікаў адкрыта гаварыць, што калі яны перавядуць сваіх дзяцей на рускую мову навучання, ім будуць створаны найлепшыя ўмовы, а калі застануцца вернымі матчынай мове, — добрай якасці вучобы не будзе?!

Я разумею, што вялікія, складаныя справы не вырашаюцца наскокам, аднымі адміністрацыйнымі мерамі, што патрэбны час, цярпенне і будзённая карпатлівая праца ўсіх грамадзян. Але ж хоць нешта трэба рабіць, а не глядзець раўнадушна, як ціха канае адна з самых мілагучных і багатых славянскіх моў. У сённяшніх айчынных абставінах мне здаецца лагічным, у прыватнасці, перагляд навучальных праграм.

Штодзённая практыка адназначна сведчыць, што руская мова непадзельна пануе ў школьных класах — не толькі на ўроках рускай мовы і літаратуры, але і на занятках па фізіцы, хіміі, матэматыцы, біялогіі. Дык вось, каб ураўняць правы беларускай мовы, каб яна гучала ў навучальным працэсе столькі ж, як і руская, варта значна павялічыць гадзіны, адведзеныя на выкладанне беларускай мовы і літаратуры, гісторыі Беларусі. Калі ўжо нашы дзеці не маюць магчымасці засвойваць на роднай мове асновы алгебры, астраноміі, экалогіі, дык хай дасканала ўведаюць герояў і пракоаў Бацькаўшчыны, шырока пазнаёмяцца з усімі скарбамі нашага прыгожага пісьменства. Хай падрабязна вывучаць і летапісы Полацкага княства, і жыццё Кірылы Тураўскага, і рэвалюцыйную спадчыну Кастуся Каліноўскага, і ахвярную працу братоў Луцкевічаў, і дзяржаўную дзейнасць Аляксандра Чарвякова... Хай запомняць пявучыя радкі не толькі Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Танка і Пімена Панчанкі, але і Аляксея Пысіна, Анатоля Вялюгіна, Васіля Віткі, Еўдакіі Лось, Сцяпана Гаўрусёва, Яўгеніі Янішчыц... Хай у доўгую жыццёвую дарогу возьмуць раманы і аповесці не толькі Кузьмы Чорнага і Максіма Гарэцкага, Івана Мележа і Уладзіміра Караткевіча, але і Міхася Зарэцкага, Андрэя Мрыя, Аркадзя Чарнышэвіча, Міколы Лобана, Яна Скрыгана, Міхася Стральцова, Івана Чыгрынава, Барыса Сачанкі. Як гэта ўсё ўзбагаціць і ўзвысіць маладыя душы, дапаможа ім прасякнуцца пачуццём любові да роднай зямлі, адчуваннем уласнай годнасці і заканамернасці і адметнасці сваёй прысутнасці ў цывілізаваным свеце!.. Тут вам і натуральная лучнасць з рэформай і гуманізацыяй школьнай адукацыі, аб чым так многа і горача гаварылася на з'ездзе, і адзін з самых эфектыўных падыходаў у патрыятычным выхаванні моладзі, на недахопы якога так часта скардзяцца нашы ідэалагічныя кіраўнікі...

Думаю, пры жаданні можна аператыўна вырашыць і пытанні з камплектнасцю беларускамоўных класаў, з папаўненнем школьных бібліятэк выданнямі нашых класікаў і сучасных таленавітых пісьменнікаў, з забеспячэннем настаўнікаў метадычнай літаратурай... Усё гэта «рабочыя моманты», якія самі сабою страцяць вастрыню, як толькі дзяржава прама і сумленна прызнае: стаўленне да беларускай мовы ў Беларусі ненармальнае, заяўлены ў Канстытуцыі яе статус павінен штодзённа і паўсюдна пацвярджацца рэальнымі справамі і рашэннямі.

Але хіба не пра адваротнае сведчыць, напрыклад, такі быццам бы прыватны факт: за тры апошнія гады са сцен Міністэрства адукацыі не выйшла ніводнай грунтоўнай пастановы, накіраванай на падтрымку беларускага школьніцтва, затое больш года таму з'явіўся загад, у якім патрабавалася павялічыць увагу да вывучэння нямецкай, іспанскай і французскай моў? Загад, вядома ж, правільны, і выкладанне замежных моў трэба паляпшаць, але чаму не баліць душа ў педагагічных чыноўнікаў за родную мову, якую робяць на Радзіме падчаркай і гатовы вытурыць з бацькоўскай хаты? Дайшло ўжо да таго, што 10 красавіка мінулага года ў прамы эфір Беларускага тэлебачання адзін з гледачоў задаў надзвычай «актуальнае» пытанне: «Ці можна ў школе замяніць вывучэнне беларускай мовы на любую замежную?» і адзін з кіраўнікоў рэспублікі ...падзякаваў яму за тое, што «ў такім плане паставілі пытанне». Гэта не кашмарны сон, не выдумкі ворагаў прэзідэнта, гэта горкая рэальнасць, як і загад № 135 дырэктара Наваполацкай ЦЭЦ Ул. Лебедзева аб забароне на тэрыторыі даверанага яму прадпрыемства ўжываць беларускую мову ў аператыўнай і тэхнічнай дакументацыі.

Давайце не будзем хітрыць і прызнаемся сабе і іншым, што ў нашай краіне ўжо амаль няма дзяржаўнага двухмоўя. Па-сапраўднаму дзяржаўная мова ў нас практычна адна — на ёй гаворыць прэзідэнт, на ёй ідуць пасяджэнні Нацыянальнага сходу, на ёй вядуцца судовыя працэсы, на ёй выдаецца большасць афіцыйных газет. Найбольш здагадлівыя і кан'юнктурныя палітычныя дзеячы добра ўлавілі настрой вярхоўных уладаў — і членскія дакументы БПСМ, напрыклад, афармляюцца ўжо толькі на адной мове, рускай, — эканомія сродкаў, сведчанне сапраўднага інтэрнацыяналізму і амаль гарантаваны льготны пропуск у новы Савецкі Саюз. Забыліся нават і пра мудрага бацьку ўсіх часоў і народаў Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, які з характэрнай для яго дакладнасцю і лаканічнасцю аднойчы заявіў: «...Існуе беларуская нацыя, у якой ёсць свая мова, якая адрозніваецца ад рускай, у выніку чаго ўзняць культуру беларускага народа можна толькі на роднай мове».

У гутарцы з карэспандэнтам «Звязды» з наіўнай шчырасцю і непахіснай перакананасцю пазіцыю многіх чыноўнікаў ад педагогікі выклаў начальнік Галоўнага ўпраўлення вышэйшай адукацыі Міністэрства адукацыі В. Дабранскі. Спярша ён як адсек: «Згодна з законам, беларускай і рускай мовам нададзены статус дзяржаўных. Значыць студэнт мае права вывучаць любую з гэтых дзвюх». Вось так: не абедзве павінен ведаць і вывучаць, а адну — вядома ж, якую. А вы лямантуеце: двухмоўе, роўныя правы!.. Далей яшчэ цікавей: «... У Міністэрства асветы (так надрукавана. — **Г. Б.**) планаў стварэння нацыянальнага універсітэта няма». Дык навошта тады, як ясна кожнаму даросламу чалавеку, нацыянальныя школы, уся гэтая смешная валтузня з беларускамоўнымі класамі, садзікамі? — роднае слова на парог універсітэта вырашана не пушчаць!..

Вельмі цікава выказаўся В. Дабранскі і трошкі раней: «Увогуле, я думаю, што ідэя стварэння нацыянальнага універсітэта — яна надуманая. Уявіце, а раптам яўрэі пажадаюць мець свой універсітэт, ці палякі, ці татары?» Сапраўды: гэта ж проста жах, асабліва калі яўрэі захочуць мець нацыянальны універсітэт у Тэль-Авіве, палякі — у Варшаве, а татары — у Казані!.. Ад такой перспектывы можна не толькі сон страціць, але і напрымаць столькі грозных ведамасных рашэнняў, што на свеце застанецца толькі адна нацыя і толькі адна мова...

Папярэдзіць аб небяспецы падобных настрояў усёмагутных апаратчыкаў я і хацеў глыбокапаважаных удзельнікаў настаўніцкага з'езда ў прасторнай канцэртнай зале «Мінск». Не далі магчымасці. Вось я і вырашыў выказацца праз газету.

Можа, сябры-настаўнікі (ды і не толькі яны) пачуюць? Спадзяюся, што пачуюць.

**Генадзь БУРАЎКІН.**

Дом мастакоў

# Імя Бялыніцкага-Бірулі на Друці

Бялынічы — гарадок маленькі. І раён Бялыніцкі на карце Беларусі з маленькіх. Але ў апошнія гады аб ім ведаюць далёка за межамі краіны як пра адзін з цэнтраў беларускага выяўленчага мастацтва, ды і шырэй — культуры.

Нечаканымі для многіх святамі і творчымі буднямі мастацтва ў апошнія гады сталі міжнародныя пленэры жывапісу імя Бялыніцкага-Бірулі, што ўвесну ці ўвосень, якія так любіў мастак, праходзяць на маляўнічай Друці, там, дзе Вітольд Каятанавіч нарадзіўся і ўбачыў прыгажосць Бацькаўшчыны. Тут ужо бывалі, пісалі цудоўныя пейзажы мастакі з Францыі, Расіі, Польшчы, Славакіі, Украіны, Літвы, Эстоніі і іншых краін Еўропы.

Летась, у дні святкавання 125-годдзя з дня нараджэння вялікага мастака, у цэнтры Бялыніч адкрыўся новы будынак музея жывапісу, тут пастаўлены помнік Бялыніцкаму-Бірулю, на беразе Друці — мемарыяльны знак, які сведчыць, што там, на тым месцы, нарадзіўся мастак. У музеі не толькі шмат цудоўных карцін і эцюдаў Бялыніцкага-Бірулі, але і работы такіх вядомых майстраў жывапісу, як Антон Бархаткоў, Анатоль Бараноўскі, Дзмітрый Алейнік, Пётр Данелія, Ларыса Журавовіч, многіх іншых удзельнікаў пленэраў на бялыніцкай зямлі. У першыя дні вясны сёлета адкрылася выстаўка таленавітага магілёўскага жывапісца Барыса Перунінскіх. Рыхтуюцца да адкрыцця выстаўкі іншых вядомых мастакоў.

А ў апошнія дні з Бялыніч прыйшла яшчэ адна радасная навіна: тут пачалося будаўніцтва Дома творчасці мастакоў імя Бялыніцкага-Бірулі.

Задума і мара паставіць Дом мастакоў на беразе Друці, на тым самым месцы, дзе некалі стаяў дом бацькоў Вітольда Каятанавіча, у якім ён нарадзіўся, жыла даўно. Яшчэ ўдава Вітольда Каятанавіча Алёна Аляксееўна пасля смерці мужа прасіла ўрад Беларусі перавезці «Чайку», вядомую ў Беларусі і Расіі дачу мастака, з возера Удомля, што ў Цвярской губерні, сюды, на бераг Друці, на радзіму мастака, каб яна, там безнаглядная, знайшла нагляд тут, каб тут адчыніла ўсе свае дзверы і вокны насустрач прыродзе, мастакам, народу, як была адчынена пры жыцці Вітольда Каятанавіча, каб у ягоных светлых пакоях працягвалася творчае жыццё. Час быў пасляваенны, цяжкі, ажыццявіць святое жаданне не ўдалося, а пасля памерла і Алёна Аляксееўна, «Чайка» трапіла ў чужыя, далёкія ад мастацтва рукі. І вось цяпер бераг Друці зноў жыве гэтай ідэяй. Ужо і не ідэяй толькі — будаўніцтвам.

Дом, праўда, будзе іншы, не той, у якім нарадзіўся і жыў Біруля, не той, у якім ён пісаў свае цудоўныя пейзажы, але на яго Бацькаўшчыне, на тым месцы, дзе ён жыў. У ім будуць жыць і працаваць мастакі — духоўныя, як ён сам казаў, дзеці і ўнукі жывапісца. Тут будуць жыць ягоныя святло і колеры, ягоны дух і ягоная музыка. І гэта таксама будзе «Чайка» Бялыніцкага-Бірулі, прывечаная ўжо чайкамі Друці.

І тут, у ваколіцах Дома мастакоў, на радзіме генія жывапісу, будуць кожны год збірацца мастакі на пленэры жывапісу.

Дом будуецца. Яго праект разгледжаны і адобраны Саюзам мастакоў Беларусі. Будаўніцтва дома падтрымаў старшыня Магілёўскага аблвыканкама А. Кулічкоў, міністэрствы і ведамствы, якія ў вяртанні на Друць, можна сказаць, самой «Чайкі» бачаць здаровы сэнс нашай культуры. Дом будуць узводзіць шмат якія гаспадаркі раёна — гэта ж ідэя і воля грамадскасці. Народ наш хоча, каб на беразе Друці стаяў і памнажаў нацыянальную духоўнасць і годнасць Дом Бялыніцкага-Бірулі.

У добры, як кажуць у народзе, шлях.

**Віктар КАРАМАЗАЎ.**

РЭШТА

36,6

# ХВАРОБЫ БЕДНЯКОЎ ТАННА І ЛЯЧЫЦЬ

**У каго вены гронкамі вісяць? У багатых? Не! У тых, хто ў транспарце гадзінамі стаіць або на рынку гандлюе, сумкі пудовыя носіць і ў хрушчоўцы на апошнім паверсе жыве. Вось такія хворыя грошай на аперацыю не наскрабуць, ды і няма калі ім па ўрачах хадзіць. А ёсць жа сродкі недарагія і дамашнія, балазе ў аптэках цяпер з травамі праблем няма. Пасылаю некалькі рэцэптаў з бабчыных запаснікаў. Пасля родаў сама на сабе іх выпрабавала. І ведаеце, дапамагло.**

## КОНСКІ КАШТАН

Асноўным сродкам лячэння тромбафлебіту лічацца прэпараты каштана конскага (не блытаць з каштанам ядомым). Ёсць гатовыя аптэчныя настойкі з каштана конскага — эскузан, эсфлазід і эсцын. Іх назначаюць унутр па 10—20 кропель 3 разы на дзень да яды. Настойку можна прыгатаваць у хатніх умовах: 10 г кветак або пладоў каштана конскага (выцягнутых з «вожыкаў») разбіць і настояць на 100 мл гарэлкі ў цёмным месцы на працягу тыдня, перыядычна ўзбоўтваючы гэту сумесь. Затым, працадзіўшы, прымаць па 30 кропель 3 разы на дзень перед ядой. Прэпараты з каштана конскага прымяняюць для лячэння трамбозаў пры родах і пасля аперацыі, пры варыкозным расшырэнні вен, асабліва ў цяжарных і парадзіх. Гарачы адвар кветак — цудоўны сродак пры пухлінах пасля вывіхаў суставаў. У гэтым выпадку адвар выкарыстоўваецца або ў выглядзе вільготных кампрэсаў, або вельмі цёплых ваннаў для пашкоджаных канечнасцяў.

## КАЛАНХОЭ

Эфектыўным сродкам пры болях у нагах, пры сіняй сетцы дробных вен з'яўляецца настойка каланхоэ на спірце або гарэлцы. Для гэтых мэтаў прыгодны любы від каланхоэ. Спосаб прыгатавання: напоўніць палову паўлітровага слоіка або бутэлькі рэзаным лісцем каланхоэ і наліць даверху спірту або гарэлкі. Паставіць у цёмнае месца і перыядычна ўзбоўтваць. Праз тыдзень настойка гатовая. Націраць ногі настойкай увечары, пачынаючы ад ступні і рухаючыся да каленяў і вышэй. Болі ў нагах праходзяць адразу, але для знішчэння сеткі вен неабходна паўтараць працэдуру 3-4 месяцы запар.

## АРЭШНІК

Старым спосабам лячэння тромбафлебітаў з'яўляецца піццё адвару з лісця арэшніку — ляшчыны звычайнай. Сабранае ў чэрвені лісце высушыць у цяні і заварыць, як чай: сталовая лыжка на 200 мл вады. Піць адвар па паўшклянкі чатыры разы на дзень. Гэты адвар дапамагае таксама пры расшырэнні дробных капіляраў вен.

## ЧАРТАПАЛОХ-БАДЗЯК

Даступны, але працаёмкі спосаб лячэння тромбафлебітаў — нанясенне на ногі (лежачы) кашкі са свежага чартапалоху-бадзяку. Кашку трымаюць на нагах па паўгадзіны. Бадзяк можна пракруціць праз мясарубку або, як капусту, пакрышыць у карытцы. Лепш браць верхнія парасткі, яны больш сакавітыя і лягчэй здрабняюцца.

## ПАМІДОРЫ

У канцы лета і восенню, калі шмат свежых памідораў, можна прыкладваць нарэзаныя кавалачкі або кашку да распухлых вен. Здымаць кавалачкі трэба тады, калі пачнецца моцнае пашчыпванне. Працэдуру можна паўтараць штодзённа.

## ПАЛЫН

Змяшаць тоўчаны свежы горкі (шэры) палын з сыраквашай (жменьку тоўчанага палыну з кветкамі на паўлітра сыраквашы). Нанесці сумесь на марлю або рыхлую анучку і прыкласці да ног там, дзе вены найбольш моцна расшыраныя. Ногі пакласці на невялікую падушачку і прыкрыць цэлафанам. Праз паўгадзіны зняць.

## ХМЕЛЬ

Зручным і заўсёды даступным сродкам з'яўляюцца шышкі хмелю, якія ўтрымліваюць, як і каштан конскі, кумарыны, якія садзейнічаюць разрэджванню крыві. Хмель акрамя лячэбнага дзеяння пры варыкозным расшырэнні вен цудоўна рэгулюе тлушчавы, водны і мінеральны абмен. Для лячэння хмелем трэба сталовую лыжку шышак здрабніць, заліць 200 мл кіпеню і награваць на вадзяной лазні 15 хвілін. Адвар прымаць па шлянцы 3 разы на дзень перад ядой. На ўчасткі ног з расшыранымі венамі прыкладваць марлю, змочаную адварам хмелю. Гэты ж адвар дапамагае пры вонкавых праяўленнях экземы і крапіўніцы.

**Ала САКСОНАВА.**
**«АиФ-Здоровье».**

# ШАХМАТЫ

***Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА***

**ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ**

**Заданне № 11**



**Віктар ЧАПІЖНЫ** *(Масква)*

**Белыя**: Крd1, Фd2, Лf3, Cd3 (4). **Чорныя**: Кра3, пп: а5, b4 (3). **Мат за 2 хады.**

**Заданне № 12**



**Мікалай БАНТЫШ** *(Віцебск)*

**Белыя**: Kpf3, Фс8, Са6, Кс6, Ке3, п. b3 (6). **Чорныя**: Крс5, Сb6, п. b5(3). **Мат за 3 хады.**

**ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, РАШЭННІ**

Прыводзім рашэнні конкурсных заданняў, якія былі апублікаваны ў газеце ў студзені і лютым г. г.

**№ 1.** 1. Фа8!

**№ 2.** 1. Kf2! Сс6 2. Kd3 (пагроза) 1... Се2 2. Ке4; 1... Cd5 2. Kd1.

**№ 3.** 1. Ле4! пагроза 2. Фс4х.

**№ 4.** 1. Фе2! цугцванг. 1... b4 2. Ле5х; 1... Кр:2. Ф:е5х; 1... К−2. Ф:g4х.

**№ 5.** Па аўтару 1. Ла5! Пабочнае рашэнне: 1. Лf3!

**№ 6.** 1. f4! пагроза 2. Ке5. 1... Кре4 2. Фg6+ 1... е6 2. Ке5.

**№ 7.** Па аўтару 1. Cf3! (на полі g6 чорная ладдзя). На дыяграме мат за 1 ход 1. Лg4х.

**№ 8.** 1. Фс7! Cb2 2. Ле3; 1... Крс3 2. Ле2.

У гадавым конкурсе рашэнняў удала стартавалі наступныя ўдзельнікі: Л. Ахрэм, А. Літвінаў, С. Сіляўкін, Я. Паноў і М. Янучок (Мінск), А. Бадзюкоў (Круглянскі раён), У. Барысёнак (Ушацкі раён), Я. Байкоў (Гродна), Ю. Галубовіч (Клецкі раён), А. Горшва (Ліда), В. Здановіч (Масты), У. Карпаў (Лунінецкі раён), І. Козел (Мазырскі раён), В. Каваленка (Лепельскі раён), І. Кавалышын (Вілейскі раён), А. Кіслы (Узда), В. Лобан (Любанскі раён), В. Лук'янчык (Талачынскі раён), Я. Лагвіновіч (Кобрын), К. Пузевіч (Пухавіцкі раён), Ф. Рашэцкі і І. Цялятнікаў (Рагачоў), П. Сушко (Докшыцкі раён), А. Сямчонак (г. Полацк) і іншыя.

**ЗАПРАШЭННЕ НА КАНГРЭС**

З 25 ліпеня па 1 жніўня ў гасцініцы «Карэлія» ў Санкт-Пецярбургу адбудзецца 41-ы кангрэс шахматных кампазітараў і рашальнікаў. У яго праграме — 21-ы чэмпіянат свету па рашэнню, пасяджэнне пастаяннай камісіі ФІДЕ, шматлікія спаборніцтвы па складанню і рашэнню, лекцыі, экскурсіі. Прадугледжаны і сходы расійскіх аматараў кампазіцыі.

Кошт пражывання з трохразовым харчаваннем (уключаючы экскурсіі, банкеты і прыёмы) — 40$ ЗША за дзень. Для ўдзельнікаў з Расіі і краін СНД магчыма скідка да 30 працэнтаў. Адрас гасцініцы: вул. Тухачэўскага, д. 27/2. Праезд ад станцыі метро «Плошча Леніна (Фінляндскі вакзал)» тралейбусамі №№ 8, 12, 3.

Запрашаем да 15 чэрвеня г. г. прыслаць заяўкі на ўдзел, а таксама загадзя паведаміць Я. Г. Уладзіміраву (125502, Масква, А-502, Петразаводская, 17, корп. 2, кв. 157) тэкст і адрасат пісьма РШФ для афармлення магчымай камандзіроўкі ад мясцовых спартыўных арганізацый або з месца работы.





## Старонка Паўла Глобы

### 24 сакавіка, аўторак

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. Адзін з самых крытычных дзён, калі нельга адыходзіць ад спраў і пазбягаць адказнасці. Пастарайцеся дапамагчы слабым, абараніце пакрыўджаных. Існуе небяспека перарасходу энергіі праз пустыя размовы і мітусню — гаварыце па сутнасці, старайцеся быць нешматслоўнымі. Можна весці рамонтныя і будаўнічыя работы, але не варта займацца апрацоўкай дрэва металічнымі інструментамі. Добра працаваць з самімі металамі. Для абароны ад негатыўных уздзеянняў можна насіць засцерагальнікі і ахоўныя талісманы з камянёў і металаў.

**ПРЫМЕТЫ**. Знайсці металічныя прадметы, асабліва вострыя, — знак таго, што хутка ўсе вашы ворагі будуць пераможаныя. Парэзацца ці ўкалоцца ў гэты дзень — да пазбаўлення ад усяго лішняга. Калі вы знайшлі на вуліцы нож, неабходна падабраць яго і ўзамен пакінуць манетку, як бы купіць, — гэта знак перамогі, здзяйснення даўніх жаданняў. Вы выпадкова разбілі посуд, і ён разляцеўся на мноства дробных асколкаў — знак выпрабаванняў, з якіх вы выйдзеце з гонарам. Дрэнна, калі ламаюцца металічныя прадметы, асабліва нож ці лязо, — гэта папярэджанне. Ірвецца «маланка», адрываюцца жалезныя гузікі, заклёпкі — знак таго, што ў вас няма сувязі з анёлам-ахоўнікам.

**СНЫ**. Добра бачыць дынамічныя сны. Змаганне і бітва — знак барацьбы з недахопамі ў сабе і іншых. Бачыць шмат зброі азначае, што вас заклікаюць да барацьбы з цёмнымі сіламі. Бачыць сябе з кароткімі валасамі ці стрыгчы валасы — да пазбаўлення ад таго, што вам перашкаджае.

**ЕЖА**. Вельмі добра есці вострую ежу: цыбулю, часнок, перац. У старажытнасці ў гэты дзень націралі чорны хлеб часнаком і пасыпалі яго соллю — гэта лічылася ежай воінаў. Сёння лепш піць, чым есці, карысныя розныя сокі. Не рэкамендуецца жывёльная ежа і ўжыванне спіртных напояў. У гэты дзень важна захоўваць сам рытуал яды, знаёмы кожнаму: «калі я ем, я глухі і нямы».

**АДЗЕННЕ**. Прытрымлівайцеся чырвоных і ружовых тонаў. Пазбягайце зялёнага і ўсіх ядавітых колераў.

**МЕДЫЦЫНА**. Беражыце галёнкі, асабліва гэта датычыць людзей, якія пакутуюць ад тромбафлебітаў, варыкознага расшырэння вен. Не перанапружвайце органы зроку, нервовую сістэму. Рэкамендуюцца масажы, водныя працэдуры.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

УСЁ ПРА ЎСЁ

## ЯК НЕ ЗАХВАРЭЦЬ АД ХАТНЯГА ПАВЕТРА?

Калі параўнаць паветра ў кватэрах з забруджаным гарадскім паветрам, то ў пакоях яно ў 4—6 разоў больш шкоднае, чым звонку, і ў 8—10 разоў больш таксічнае. Самую вялікую шкоду чалавеку як крыніца іанізуючага выпраменьвання прыносіць радон. Выдзяляецца ён у асноўным з зямной кары. Любая наземная пабудова накоплівае гэты радыеактыўны газ. У нашых дамах радон выдзяляюць сцены, перакрыцці, а таксама водаправод і бытавы газ. Як змагацца з гэтай напасцю? Можна час ад часу рабіць скразнякі, рассейваючы радон у атмасферы. Атручваюць паветра ў кватэрах свінцовыя бялілы, пральныя парашкі, лінолеум, сінтэтычныя дываны, сучасная мэбля.

Якое выйсце? Завесці хларафітум — самы актыўны ачышчальнік паветра ў кватэры. Непатрабавальная да святла і вільгаці расліна ўяўляе сабой разетку вузкіх лістоў, з якой з часам вырастаюць доўгія тонкія сцяблінЫ — кветканосы з дробнымі белымі кветкамі.

**Па матэрыялах друку склала Вікторыя КЛЯНОВІК.**



## ВІНШАВАННІ

*Дарагая мамачка **Галіна Міхайлаўна СВІЛА**. Віншуем цябе з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, вялікага шчасця, дабрабыту і радасці на доўгія гады.*

**Дзеці, г. Астравец.**

*Віншуем дарагую матулю і бабулю **Марыю Канстанцінаўну УЛАДЫКА** з в. Стайкі Вілейскага раёна з 70-годдзем. Жадаем здароўя, дабрабыту, шчасця і радасці ў жыцці.*

**Дзеці, унукі, праўнукі.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.902. Індэкс 63850.
Зак. № 1588.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12